## Беларускі тэатр.

Прэзыдыюм Часовага Беларускага Нацыянальнага Камітэту даручыло вядомаму нашаму драматургу і артысту п. Ф. Алехновічу арганізаваць у Менску беларускі тэатр. П. Алехновіч пачау ужо рабіць у гэтым напрамку адпаведныя крокі і хутка перэбярэцца у Менск, каб тут пачаць сваю тэатральную работу.

---

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



ГРУППА ИЗБИРАТЕЛЕЙ
устраивает
В воскресение 16-го ноября в 6 часов вечера в Рабочем Доме (Кафедральная пл. № 5, дом Ляховского).
Во вторник 18-го ноября в 6 часов вечера в Интимном Театре (Ново-Московская ул. зал „Париж“).
В четверг 20-го ноября в 6 часов вечера в Белорусской Хатке (Конная площадь).
ПРЕДВЫБОРНЫЕ СОБРАНИЯ.
Отвстственные лица: *Б. И. Беднарович. П. П. Кащенко. Н. К. Ярошевичъ. А. Ф. Ульянов.*

Со вторника 11-го сего ноября
**Контора Союза Об'единенных Кооперативов**
(быв. Минскій Централ. Рабочій Кооператив)
временно переносится из помѣщенія „Эксимпорта“ въ помѣщеніе быв. Статистическаго Бюро, уг. Доминиканской (Петропавловской) и Фадея Рейтана (Юрьевской) ул. д. № 16 над аптекой.
Вход с Юрьевской ул.
Просят заинтересованных лиц обращаться по вышеуказанному адресу с 9 ч. утра до 4 час. дня.
ПРАВЛЕНІЕ.



Друкарня Інвалідаў, Менск.